„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 17 (61) БЕЛАСТОК, 28 КРАСАВІКА 1957 г. ГОД II

## Сплачвайма доўг

У гэтым годзе, 25 чэрвеня, мінае 75 год з дня нараджэння выдатнейшага паэта нашага часу, вялікага сына беларускага народа — Янкі Купалы.

Трудна сабе ўявіць беларускі народ без Янкі Купалы, як і Янку Купалу без беларускага народа, які даваў паэту натхненне і якому аддаў наш пясняр усё сваё жыццё.

Аднак Янка Купала — паэт не толькі беларусаў, хоць і творчасць яго прасякнута беларускасцю як у ніводнага паэта, ён атрымаў правы грамадзянства ўсяго працоўнага люду, усіх свабодалюбівых народаў, бо Янка Купала — пясняр працоўнага народа і свабоды.

Гэта варта падкрэсліць не толькі з увагі на надыходзячае святкаванне Міжнароднага дня працы — 1-га Мая, гэта трэба мець на ўвазе, калі гаворым аб Янку Купалу, незалежна, у беларускім ці польскім асяроддзі.

75-тую гадавіну нараджэння Янкі Купалы мы павінны адзначыць асаблівай цяплынёй і гордасцю. Роднае слова, якога ён быў непаўторным майстрам і права беларусаў «людзьмі звацца», якога быў ствральнікам, знайшлі сваё месца ў нашым жыцці.

Цяпер усё залежыць ад нас — як мы патрапім цаніць роднае слова і карыстаць з права на развіццё роднай культуры.

Няхай доказам нашай любві да роднай культуры і сплачаннем даўгу Таму, хто да яе пратоптваў першыя сцежкі, будуць «Купалаўскія дні», да святкавання якіх заклікаем усіх беларусаў у Польшчы, а асабліва моладзь.

Няхай кожны аддзел БГ-КТ, кожны гурток, кожная школа падумаюць як правесці свае «Купалаўскія дні».

Думаем, што неабавязкова трэба трымацца юбілейнага дня, а праводзіць мерапрыемствы паводле мясцовых, найбольш адпаведных для данага асяроддзя, тэрмінаў, Барта, каб «Купалаўскія дні» знайшлі месца ў падрыхтоўцы да Маскоўскага фестывалю.

Важна адно, каб у кожным асяроддзі быў свой «Купалаўскі дзень». Важна кожная добрая ініцыятыва.

З свайго боку, заўсёды служым парадай. Парады, мастацкі матэрыял як і цэнныя пачынанні з мест, будзем змяшчаць у «Ніве».

Ужо ў гэтым нумары пачынаем друкаваць повесць аб дзяцінстве Янкі Купалы, якая сваім жывым зместам, мы ўпэўнены, усхвалюе нашых чытачоў.

Спадзяемся, што наш заклік знойдзе шырокі водгук сярод беларускага насельніцтва ў Польшчы, а таксама і сярод палякаў.

Не трацьма часу, выступайма з прапанoвамі, сплачваймa доўг Янку Купалу!

**Віншуем нашых чытачоў з надыходзячым 1 МАЯ**



*Вясна.*

**МАКСІМ ТАНК**

## Дума пра Веру Харужую

Ці ў бары, ля смалістых карэнняў,
Ці мо' там, дзе жыты ўскаласілі,
Пад якім курганом безыменным
Ты, Харужая Вера, спачыла?
Дума-песня ўсё ходзіць па краю,
Ходзіць, кліча цябе і шукае,
Бо не можа ні песня, ні сэрца
Сумным весткам паверыць аб смерці.

Зноў тваё ўсё жыццё баявое
Устае перад намі сягоння:
Вось ідзеш ты асенняй парою
Па шляхах Беларусі Заходняй,
Каб узняць сцяг чырвоны паўстання,
Каб павесці народ на змаганне
Супраць жудаснай панскай няволі,
За свабоду, за лепшую долю.

Колькі раз пад агнём ты стаяла!
Толькі перад тваёю адвагай
Немінучая смерць адступала
З дэфензыўскаю чорнай ватагай.
Не зламалі цябе казематы
І Лукішак сцюдзёныя краты.
У панурым у пекле астрожным
Засталася ты непераможнай.

Год за годам міналі. На волю
Сэрца рвацца не пераставала,
Да сяброў баявых, што ў падполлі
Ні на міг барацьбы не спынялі.
І хоць кашаль сухотны, няспынны
Не даваў адпачыць ні хвілі ны,
У поўночнай напружанай цішы
Ты лісты палымяныя пішаш.

Пішаш ты словы, поўныя веры,
У надыходзячую перамогу,
І здаецца, што ў камеры шэрай
Ад іх тлее каменне астрогаў...
Помніш ты, як у дзень вераснёвы
Векавыя апалі аковы,
І як сонца з Усходу ўставала,
І як волю краіна вітала?!

А калі вораг люты парушыў
Нашы межы і мірную працу,
Ты, паходны шынель апрануўшы,
Зноў пайшла за радзіму змагацца.
Помняць постаць тваю, партызанка,
Па-над Сожам світальныя ранкі,
І сябры, што парою прадвеснай
Пра цябе пяюць думы і песні.

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



# Можна будаваць таней

Няма хіба патрэбы гаварыць аб тым, што лясы нашыя моцна прарэджаны і што сёння асабліва адчуваецца недахоп дрэва. У тым самым часе ў нас усё яшчэ сяляне карыстаюцца ў будаўніцтве пераважна іменна дрэвам. Гэта справа вельмі важная трэба толькі крыху ахвоты і ініцыятывы ды тым, каб перайсці з традыцыйнага будаўнічага матэрыялу, якім дагэтуль з'яўляецца дрэва, на такія матэрыялы як: камень, шлак ці гліну. Сяляне наогул баяцца стасаваць гэтыя матэрыялы, яны часта не разумеюць матэрыяльных карысці, а таксама таго, што гэтакае будаўніцтва ў нічым не ўступае традыцыйнаму, а наадварот, яно лепшае і трывальшае. Возьмем напрыклад камень, якім завалены нашыя палі, а які нават вывозіцца дзяржаўнымі прадпрыемствамі з абшараў Заблудава, Саколкі, Монек ці іншых.

Выкарыстоўваючы мясцовыя магчымасці можна з большых разбітых каменняў мураваць не толькі фундамент, але таксама сцены гаспадарчых, а нават жыллёвых будынкаў, муруючы вонкавые сцены з камення, а ўнутраныя выкладваючы цэглай. Такім чынам сэканоміць можна цэглу. Аб тым, што каменне з'яўляецца добрым будаўнічым матэрыялам сведчыць шмат пабудаваных нават дамоў адпачынку.

У залежнасці ад мясцовых магчымасці можам таксама выкарыстаць гліну. Многія скажуць, што гліняныя дамы нетрывалыя. Няпраўда! Але, каб былі трывалымі — трэба перш за ўсё ўмець будаваць. Пры добрым і ўмелым будаўніцтве гліна ў нічым не ўступае дрэву ці іншым матэрыялам, а гэтакія дамы могуць стаяць сотні гадоў. Маем некалькі спосабаў будавання дамоў з гліны. Адным з такіх з'яўляецца вельмі просты, пры дапамозе перасоўванай ашалёўкі з досак, паміж якую ўбіваем гліну змешаную з такім валакністым матэрыялам як: салома, кастрыца, ці тонкае галлё. У канцы лета, калі дом дастаткова падсохне — трэба атынкаваць вонкавыя і ўнутраныя сцены. Іншым спосабам, мо' быць выгаднейшым, бо можам будаваць нават пры неспрыяючых атмасферычных умовах, — з'яўляецца мураванне на растворы гліны з цэментам прыгатаваных і высушаных летам — гліняных блокаў.

Гліну можна выкарыстаць не толькі на сцены, але таксама і на столь (полап). З гліны змешанай з сечкай, кастрыцай ці з драўлянымі апілкамі робім гліняныя пліты даўжынёй у 1,5 метра і шырынёй 0,5 метра, укладваючы ў сярэдзіну для ўмацавання 2—3 кавалкі дрэва 5—7 сантыметраў грубасці. Пры максімальным застасаванні гліны (пры будове сцен, плітаў на столь, даху) можна атрымаць ашчаднасць да 50 прац.

У нас у некаторых мясцовасцях дахаваліся гліняныя дамы яшчэ з XVII стагоддзя, а ў Германіі будаваліся з гліны перад вайной і сёння нават будуюцца двухпавярховыя дамы. З гэтага вынікае, што цэгла патрэбная толькі да пабудовы комінаў.

Іншым, вельмі добрым будаўнічым матэрыялам з'яўляецца шлак, якога шмат ёсць у электрастанцыях, заводах, ці пры большых чыгуначных станцыях. Незалежна ад тых месц, дзе можам атрымаць шлак бясплатна, можна давесці са Шлёнска да кожнай бліжэйшай чыгуначнай станцыі высокаякасны доменны шлак т. зв. грануляваны. І так напрыклад у Беластоку тона яго каштуе 9 зл. Прыгатаваны адпаведна шлак вымешаны з вапнай убіваецца паміж перасоўванай ашалёўкай дошак. Іншы спосаб зводзіцца да фарміравання плітаў ці т. зв. пустакаў.

З мешаніны шлаку з вапнай і цэментам можна рабіць шлакавыя цэглы, а шлак змешаны з глінай надаецца да будовы столі (полапу). Пры гэтым трэба памятаць толькі аб тым, што шлаку нельга выкарыстоўваць на фундамент. Ёсць яшчэ шмат іншых матэрыялаў, якімі можна заступіць дрэва, але тыя, аб якіх была мова, больш за ўсё нам даступныя.

А цяпер давайце з алавіком у руках палічым, якую атрымаем ашчаднасць будуючы дом напрыклад шырынёй у 9 метраў і даўжынёй у 10 метраў?

Пабудаванне аднаго квадратнага метра сцяны грубінёю 40 см. са шлаку адпавядае цагляная сцяна грубінёю ў 51 см. На адзін квадратны метр сцяны цаглянай, патрэба 224 штукі цэглы г. зн. 224 зл. у тым часе, калі 1 квадратны метр шлакавай сцяны будзе каштаваць толькі каля 6 злоты.

Адсюль на адным квадратным метры маем 218 злоты ашчаднасці, а на сценах цэлага дому 9м х 10м г. зн. каля 110 квадратных метраў, атрымаем ашчаднасць на суму 23.980 зл.

Вось што выказала простая арыфметыка.

Ашчаднасць можам атрымаць нават будуючы дом з нармальнай цэглы. Запытаеце як? Давайце зноў пяройдзем да арыфметыкі. Мы ўжо сказалі, што 1 квадратны метр цаглянай сцявы ў дзве цэглы грубінёю 51 см каштуе 224 зл. Калі замест сцяны ў дзве цэглы паложым паўтары — грубінёю 38 см і вылажым унутраныя сцены плітамі т. зв. «супрэма», якой 1 квадратны метр каштуе 21 зл. 50 гр., то атрымаем ашчаднасць на сценах дому каля 4.000 зл., а кладучы адну цэглу і дзве пліты супрэма — 8.000 зл.

Нядаўна будучы ў Гайнаўцы я бачыў дом пабудаваны ў 1932 г. з драўляных апілак, пяску, вапны і невялікай колькасці цэменту. Ён нічым не розніцца ад іншых; прыгожы, цёплы і трывалы.

З гэтага відаць, што варта выкарыстоўваць будаўнічыя матэрыялы, як камень, гліну ці шлак, трэба толькі крыху ўласнай ініцыятывы.

Ул. Ш.



*Вось такія дамы з цэглы ўжо будуюць сяляне на Беласточчыне.*

## Лепшы турыст, чым лысыя паляны

*(Працяг са стар. 3).*

часці карэнных жыхароў пушчы.

Прыступіць да змены сістэмы гаспадаркі белавежан — гэта значыць пераставіць яе на больш рэнтоўную пры ўмовах масавай турыстыкі. У магчыма кароткім часе правесці камасацыю зямлі (трэба зазначыць, што справа камасацыі ў Белавежы вельмі наспеўшая).

На скамасаванай зямлі за некалькі гадоў прыгожа расцвітуць сады, прыносячы ва ўмовах турыстыкі вялікі даход. Апрача гэтага ў пушчы ў шырокіх маштабах вядзецца гадоўля прамысловых звяркоў, нутрыі, норкі, выдр і г. д., маючых вялікае значэнне ў агульным маштабе ўсёй краіны. Вада ракі Нараўкі больш паднята і плошчы, цяпер няўжыткі, будуць цэнтрам забяспечваючым турыстаў свежай рыбай. На возеры прыгожая лодачная станцыя, выгадныя пляжы, плывальны басейн, а на востраўках лебядзіныя гнёзды.

У рамах актывізацыі малых мястэчак у Белавежы развінута рамяство дробнай вытворчасці маючае характар памяткарства, і развіта сетку абслугоўваючых пунктаў Адным словам знойдзецца ўсё, што забяспечыць нармальныя ўмовы турыстам.

Тут-жа павінен быць лясны факультэт СГГВ — як самастойная вышэйшая навучальная ўстанова. Паводле мяне — сцісла рэзерват павінен быць жывой лабараторыяй для студэнтаў, а ўся пушча — гэта даследная пляцоўка для выпрацоўкі як найбольш наву овых метадаў вядзення лясной гаспадаркі.

Усё гэта разам узятае выратуе пушчу ад няхібнай заглады, падыме матэрыяльныя і інтэлектуальныя ўмовы белавежан, дасць краіне неабходную колькасць дэвізаў. Трэба памятаць, што Белавежская пушча — гэта гонар краіны.

Ці сапраўды мы — грамадзяне Польшчы не з'яўляемся народам, які патрапіць даказаць, што любіць і цэніць прыроду? Нават выбрэдны смак цара спасаваў перад прыгожасцю Белавежскае пушчы, не гледзячы на то, што да выбару меў разлеглыя абшары сваёй імперыі. І ў сучасны момант у Совецкім Саюзе ахоўваецца пушчу, як неацэнены скарб. Па-мойму лепшы турыст з рэчавым мяшком на плячах, які напэўна не парушыць першабытнасці пушчы, зламаўшы галінку, ці сарваўшы лісток, ніж чалавек з маторнай пілай, застаўляючы па сабе лысыя паляны.

Мгр. М. ТАРАСЕВІЧ.

*(Працяг са стар. 3).*

## ВЕРА ХАРУЖАЯ

абмінаючы фашысцкую цэнзуру перасякалі граніцу.

У 1931 годзе выдавецтва «Маладая Гвардыя» сабрала частку пісем Веры Харужай і выпусціла іх асобнай кнігай пад назвай «Пісьмы на волю». З меркаванняў канспірацыі прозвішча аўтара не была ўказана на вокладцы. Яго замянілі псеўданімам «Польская комсамолка». Але і ў Беларусі, і на Украіне, і ў Маскве — ведалі, хто напісаў гэтую цудоўную, мужную, незвычайна лірычную, сапраўды паэтычную кнігу. Не выпадкова напісаў А. М. Горкі, які бачыў кнігу ў гранках, Веры і яе сяброўкам: — Прыміце, таварышы дарагія, і маё сардэчнае прывітанне!

Светлы аптымізм, які пранізвае кнігу ад першай да апошняй старонкі, вера ў будучае, непрымірымая нянавісць да ворагаў і любоў да людзей збліжаюць «Пісьмы на волю» з другім выдатным творам літаратуры — «Рэпартаж з пятлёй на шыі» нацыянальнага героя Чэхаславакіі Юліуса Фучыка. Нездарма абедзве кнігі ствараліся амаль у адных і тых-жа ўмовах.

Увосень 1932 года Совецкі ўрад, глыбока занепакоены здароўем Веры і радам іншых нявольнікаў польскага фашызма, ужыў энергічныя захады да іх выратавання.

Апошнія гады перад вайной Вера працавала штатным прапагандыстам райкома партыі ў Целеханах, Пінскай вобласці, і ў самым Пінску.

...Вайна. Вера Харужая са сваім мужам, работнікам гаркома партыі Сяргеем Карнілавым ідзе ў партызаны.

4 ліпеня 1941 года фашысцкая куля выводзіць са строю Карнілава.

Вайна застала Веру на шостым месяцы цяжарнасці. Камандаванне атрада прапануе ёй пайсці ў тыл. Яна горача пратэстуе супроць гэтага.

У канцы жніўня камандванню атрада спатрэбілася што-бы там ні стала звязацца з Цэнтральным Камітэтам партыі. Выбар паў на Веру.

Шэсць дзён прабіралася Вера праз лінію фронта. У дарозе яна ледзь не патанула ў рацэ Пціч, праз якую давялося пераплываць. Тысячы іншых небяспек падсцерагалі яе ў дарозе, пакуль не ўдалося ёй, нарэшце, дабрацца да Гомеля, дзе ў той час знаходзіўся Цэнтральны Камітэт.

Заданне выканана. Па настаянню партыйнага кіраўніцтва Вера едзе ў Скопін, Разанскай вобласці, дзе ў яе нараджаецца сын Сярожа.

Вораг ля варот Масквы. Лінія фронта падыходзіць ушчыльную і да Скопіна. Горад эвакуіруецца. З трохтыднёвым дзіцём на руках едзе Вера ў глыбокі тыл — сяло Усць-Буб, Славінскага раёна, Молатаўскай вобласці. Тут, у калгасе «12 год Кастрычніка», знайшлі сабе прытулак яе маці, сястра і дачка Аня.

Вера працуе ў праўленні калгаса рахункаводам, выступае на сходах, удзельнічае ў партыйным жыцці раёна. Але ўсё яе думкі там, дзе ідзе непасрэдняя барацьба з фашызмам — не на жыццё, а на смерць.

Вера піша пісьмо ў Цэнтральны Камітэт партыі. Яна даказвае, што будзе больш карыснай у падполлі, на фронце, чым у тыле. Спасылаецца на свой вопыт нелегальнай работы, добрае веданне моваў. Хутка прыходзіць адказ. Веру выклікаюць у Маскву.

У Маскве Вера працуе ў Штабе партызанскага руху Беларусі, у Цэнтральным Камітэце партыі. Але ўсё гэта, як яна гаварыла, «праездам». Вера імкнецца хутчэй трапіць на акупіраваную ворагам тэрыторыю, імкнецца ў падполле. Сэрца яе абліваецца крывёй пры ўспамінах аб тым, як здзекуецца вораг над безабаронным насельніцтвам гарадоў і сёл, як мучыць ён родную Беларусь.

*«Таварышы мае дарагія!* — піша Вера ўвесну 1942 года групе таварышаў — *Мне шмат разоў даводзілася выязджаць з Беларусі і жыць падоўгу воддаль ад яе, але заўсёды маё сэрца было сагрэта думкаю пра яе, пра яе рост, пра яе росквіт і сілу. А цяпер сэрца разрываецца на кавалкі, няма меры пакутліваму болю».*

Працуючы ў штабе партызанскага руху Беларусі, Вера настойліва ставіць пытанне аб яе скарыстанні ў тыле ворага. Ёй адмаўляюць. Але яна зноў і зноў даказвае, што дзіця яе — у верных руках, што ў час вайны яна не можа, не мае права думаць аб асабістых справах і, нарэшце, дабіваецца свайго. Увосень 1942 года Цэнтральны Камітэт партыі пасылае яе на падпольную работу ў Віцебск — важны стратэгічны пункт, дзе ў той час знаходзіцца вялікая групіроўка варожых войск. У дзень ад'езду Веры яе брат, які знаходзіўся ў той час у Маскве, зрабіў такі запіс:

*«Сёння 23 жніўня, у 7 г. 30 м. паехала Верачка ў самым небяспечным кірунку. Шчаслівай дарогі, мая дарагая сястрычка!».*

І вось Вера — у Віцебску. Глыбокая восень 1942 года. Вопытны канспіратар, Вера Харужая, нават у найцяжэйшых умовах фашысцкай акупацыі, у горадзе перапоўненым эсэсаўцамі, робіць даручаную ёй партыяй справу. І, як заўсёды бадзёрасцю дыхаюць яе пісьмы, палымяная ўпэўненасць у перамозе гучыць у іх. Расказваючы аб настроях народа, Вера піша Цэнтральнаму Камітэту партыі: «Гэтыя цудоўныя людзі непахісныя ў сваёй нянавісці да ворага... Што-б з імі ні здарылася, яны застануцца совецкімі людзьмі...».

«Я напоўнена самымі лепшымі надзеямі, ніколькі не баюся, што мяне павесяць», — піша Вера.

...Глыбокай восенню, у пачатку лістапада 1942 года паліцэйскія акружылі дом, у якім знаходзілася ў гэты час Вера Харужая. У фашысцкіх засценках ад яе не дабіліся ніводнага слова.

Так загінула слаўная дачка беларускага народа Вера Харужая.

 

Зыгмунт Бурчак-Абрамовіч

# ВІЗІТАЦЫЯ

*Памяці маіх слухачоў, якія адыйшлі ад нас на заўсёды.*

Быў час, калі ў школах Польшчы «у модзе» была гэтак званая «утраквізацыя»: школы з польскай і беларускай (ці іншай «меншасці») мовай. Якраз тады асвета сцяміла, што амаль зусім няма настаўнікаў беларусаў. Трэба было іх падрыхтаваць, а перш-на-перш знайсці.

Пачалі шукаць — і адшукалі. Знайшлося ў Віленшчыне і Гродзеншчыне некалькі даўнейшых настаўнікаў усялякага тыпу расейскіх школ, людзей ужо ў большасці пажылых, якія праўду кажучы, даўно (з невялікімі выняткамі) забыліся сваёй «метадычнай» мудрасці і амаль што галадавалі па вёсках, раскінуўшых па прасторах заходняй Беларусі.

Сабралі гэтых «дзядзькаў» на настаўніцкі курс у Вільню, адчынілі інтэрнат і пачалі прыпамінаць з імі метады педагагічнай навукі, польскую мову (яны лепш ведалі расейскую), якую ведалі дрэнна. Мяне выклікалі ў Куратарыум і даручылі праводзіць заняткі па беларускаму пісьменству і мове.

Курс пачаткова ніяк не мог набраць сілы — змучаныя бяспраўным дагэтуль жыццём, думкамі аб сям'і, якая засталася недзе на вёсцы — нашыя «дзядзькі», як мы іх шуткуючы называлі — з нейкай натугай вярталіся да даўнейшай «спецыяльнасці».

Аднак, паступова, як толькі дазвалялі абставіны курсу і гэтага часу — навука раскручвалася, выходзілі цікаўныя індывідуальнасці і нераз мы былі здзіўлены і сапраўднай ведай, і шырокасцю поглядаў слухачоў — і, што больш важна, шчырай «беларускасцю», якая выходзіла з гэтых таленавітых, русыфікаваных царскай уладай, а пасля зусім бяспраўных людзей.

Гутаркі аб беларускім пісьменстве і ўсё, што мы апавядалі па-беларуску слухалі яны з захапленнем — усім сэрцам.

Рэч ясная, што гэта не заўсёды было прыемным «утроквістым» ад зялёных урадавых столікаў.

Гэта была «меншасць» — і адносіны былі таксама абмежаваны ў вырашэннях «сымпатыі».

Аднак, як аказалася, курс быў здарэннем важным. Аб гэтым усе мы — і лектары і вучні маглі хутка пераканацца.

Раніцай, на адной з першых лекцый мы чыталі і праводзілі спрэчкі над аповесцю Коласа «У палескай глушы».

Усё, што перажыў «герой» Коласа вучыцель Лабановіч, звяртала маіх слухачоў да іх маладосці, у старонку даўнейшых імкненняў, мо' зцёртых з замучанай памяці...

Гэта-ж той самы перыяд гісторыі, тыя самыя абставіны ў якіх і яны праводзілі сваё жыццё і заняткі ў глухіх кутках царскага «Северо - Западного края».

Чытаю далей...

Чую, нейкі як-бы ўздых, гляджу — на вачах слёзы.

Плыве з прыцішанай далі нейкі глыбокі сум і здаецца, што, як кажа паэт, «брызнулі іскры з халодных каменняў». Адчыняюцца дзверы і ўбягае дырэктар курса, а за ім акруговы куратар і два ці тры візітатары прапускаюць уперад невысокага, даволі ўжо паджылога чалавека.

«Дзе я яго бачыў» — шукаю ў памяці. Шукаю нядоўга, бо ён падыходзіць да мяне, ветліва вітаецца і ціха прамаўляе: «Грабскі».

Быў гэта міністр асветы. «Дзядзькі» яшчэ добра не ведалі хто «пажалаваў», аднак нейкая «помпа» і колькасць зрабілі сваё — яны крыху спалохаліся.

Толькі супакойна чытаючы тэкст я перамог гэты страх. Пераход з аднаго настрою ў другі быў надта моцны.

«Як палкай па галаве» прызнаваліся пасля старыя настаўнікі.

Міністр дачакаўся канца, прыслухоўваўся да адказаў на пытанні.

Калі прыйшоў канец — Грабскі звярнуўся да нас усіх, гаворачы папольску:

«Я шмат з таго, што гаварыў вам пан прафесар зразумеў зусім добра, аднак прызнаюся — ніколі я не думаў, што беларуская мова такая прыгожая. Вельмі вам усім дзякую і прашу будзьце добрымі настаўнікамі».

Гэтакім чынам нашы «дзядзькі» выраслі на цэлую галаву, а беларуская «экзотыка» яшчэ адзін раз вытрымала адзін з цяжкіх экзаменаў.

## Май бела-чырвоны

Вясёлы май, прыгожы май,
Расцвіў садамі родны край!
Адмаладзеў, увакол запах,
Разліўся звонам па хатах.

Вясёлы май, прыгожы май,
Маю зямлю змяняе май.
Размаляваў у белы чар,
Успалыміў у сэрцах жар.

Святочны май, наш Першамай,
Пакрыў сцягамі цэлы край!
Расчырванеўся, залунаў,
Найпрыгажэйшы ў свеце стаў!

Чырвоны май, наш Першамай,
Спявай, мая зямля, спявай!
У чырванні сцягоў лунай,
Цвіці, красуйся, вырастай!

Чырвоны май, працоўных май,
Сусветным МІРАМ расцвітай!
І чырванёй сцягоў кажы:
Зямля працоўных без мяжы!

АНДРЭЙ СОШКА.

## А можа-бы так і іншыя



*Папярэчны транспарцёр.*

Ці ведаеце вы, што такое «прызма»?

У штодзённай гутарцы лесапільных работнікаў — гэта калода дрэва, з якой адпілавана па адной дошцы (аполку) і якая па чарзе «ідзе» далей у «гатры» — інакш кажучы ў машыну, якая парэжа яе зусім на дошкі.

Але гэта толькі лёгка сказаць: «калода дрэва ідзе», каб такую калоду дыяметрам 70—80 см., а часам і больш, падняць на вышыню больш-менш 2 метраў — патрэбная была сіла каля 15-ці чалавек. Гэтакі незмеханізаваны прыём калод у Прадпрыемстве Драўлянай прамысловасці ў Гайнаўцы з'яўляўся тормазам у працы ўсяго прадпрыемства.

Да ліквідацыі цяжкасцей забраўся цэлы калектыў. Галоўны механік Эдуард Жончынскі з сяміасабовай брыгадай пасля шматлікіх няўдач дабіліся мэты.

Цяпер велізарныя калоды, якія выходзяць з-пад пілы пасля першай абрэзкі, перакідаецца на папярэчны транспарцёр які па адной перасоўвае іх да дамкрата, а дамкрат ізноў — падымае калоду на патрэбную вышыню.

У гэтым выпадку патрэбны толькі адзін чалавек для кіравання рычагамі.

Работа ідзе лёгка і хутка, аж міла паглядзець.

Пры тым трэба сказаць, што гэта вынаходства прыносіць прадпрыемству 120.000 зл. сэканомленых грошай у год.

Ініцыятары вынаходства атрымалі 7.000 зл. узнагароды. У Гайнаўскім прадпрыемстве ўведзена шмат іншых удасканаленняў, ініцыятарамі якіх з'яўляюцца таксама тамашнія работнікі.

Яны вельмі ахвотна падзяліліся-б сваімі дасягненнямі з усімі, хто-б гэтым зацікавіўся.

Іх вартасныя вынаходствы можна было-б выкарыстаць у іншых падобных прадпрыемствах.

У Польшчы існуе каля 500 лесапільняў. Калі-б вышэй успамянутае ўдасканаленне выкарыстаць усюды (дагэтуль выкарыстоўваецца толькі ў Аўгустове) — то дзяржава наша сэканоміла-б каля 60-ці мільёнаў злоты ў год.

Ігра варта свечкі — асабліва там, дзе справа ў мільёнах.

І. РЫБІНСКІ
(Фото аўтара)

ЗІНАІДА БАНДАРЫНА

## Ой, рана на Івана

*(Старонкі маленства Янкі Купалы)*

Белая пясчаная звілістая сцежка вяла ўгару, да магутных смалістых сонсаў. Адтуль, з гары, перад вачыма адкрываўся прыгожы краявід — палі, пералескі, курганы. Быў канец чэрвеня. У сасновым бары паспелі першыя сакавітыя суніцы; лясныя паляны і сенажаці стракацелі духмянымі рознакаляровымі кветкамі, а жоўтаротыя птушаняты, якія ўпершыню пакідалі цёплыя гнёзды, вучыліся лятаць. У гэты час нашыя дзяды і прадзеды звычайна святкавалі Купалле.

На заліўных сенажацях і лясных палянах шэравокая Бянігда і яе сяброўкі збіралі рамонкі, званочкі, яркачырвоную смолку; на ўзмежках жытнёвага поля яны рвалі васількі і ўвесь час спявалі:

— Ой, ра-а-на на Ів-а-на...

У халадку ля крынічнай рэчкі дзяўчаты плялі з кветак вянкі, кідалі іх у ваду і варажылі — збудзецца іх жаданне ці не. Калі-ж у небе загараліся зоркі, старыя і маладыя аднавяскоўцы ішлі па роснай траве праз густы арэшнік да высокай гары. Падымаючыся на гару, яны ўваходзілі ў лес, распальвалі там кастры, вадзілі вакол карагоды, спявалі:

Купалінка, Купалінка,
Цёмная ночка...

Потым хлопцы і дзяўчаты скакалі цераз агонь, а самыя адважныя, узяўшы палючыя галавешкі, ішлі ў лясны гушчар шукаць кветку папараці — кветку шчасця. Здавён жыло павер'е аб тым, нібы, хто знойдзе гэтую нябачаную кветку, будзе самым шчаслівым чалавекам.

Ярка гарэла вогнішча, іскры шугалі ў самае паднябессе. Шчасцем ззялі вочы вясёлага парабка Дамініка, калі слухаў ён, як спявае Бянігда. Яны даўно пакахалі адзін аднаго. Пажаніліся.

Абое былі маладыя і дужыя, працавітыя. Толькі што з таго, калі няма дзе гаспадарыць. Пайшоў Дамінік да пана зямлі прасіць. Той падумаў і нарэшце сказаў:

— Магу і на гэта даць згоду, бяры зямлю на запашку, палавіннікам будзеш. — І, усміхнуўшыся, дадаў: — Сей, не шкадуй, а што намалоціш — у мой свіран звязеш.

Не баяўся Дамінік работы, а пра свіран падумаў, што пажартаваў пан.

— Пры дбайнай працы зямля ўсіх пракорміць, — не адзін раз гаварыў ён жонцы.

Далі ім кавалак панскай зямлі. На той зямлі — камень на камені, чартапалох палыном паганяе. З цямна да цямна працавалі маладыя, каменне з поля выбіралі, пустазелле знішчалі.

Надышоў час сеяць, а ў Дамініка Луцэвіча няма ні зернятка.

Зноў з паклонам пайшоў да пана Дамінік. Той не адмовіў, толькі ўсміхнуўся ў доўгі вус і сказаў:

— Я табе не шкадую, маім насеннем засееш на першы раз, ды на маім полі за яго і адробіш...

І на гэта згадзіўся Дамінік. Усё лета ён і жонка працуюць да дзесятага поту на панскім полі, апрацоўваюць арандаваны кавалачак зямлі. Аднак у хатцы на беразе Вязынкі, дзе яны пасяліліся пуста і гола. Прыйдзе час ураджай збіраць — усё дачыста завязе Дамінік пану, і то за даўгі не расплоціцца, яшчэ вінаваты застаецца.

У ноч пад Івана Купалу, 25 чэрвеня 1882 года, на хутары Вязынка нарадзіўся ў іх сын Янка. У лесе, на гары, як заўсёды, спявалі дзяўчаты. Ад зыркіх вогнішчаў у ціхае неба ляцелі іскры і ўспыхвалі там залатымі зоркамі.

Туманнай раніцай Дамінік узяўся вастрыць касу і, павярнуўшыся пасвятлелым тварам да сваёй хаткі падумаў: «Сын! Вырасце — памочнікам будзе...» У думках ён ужо вучыў Янку, як працаваць на зямлі, каб стаць сапраўдным гаспадаром. Падрасце, зойме поруч з бацькам пракос, засвішчуць косы, хто каго апярэдзіць. У хаце за шырокай печчу Дамінік павесіў драўляную калыску. Маладая маці Бянігда Іванаўна, нахіляючыся над ёй, калыша сына, ласкава называючы яго Ясікам, і ціхенька напявае:

Спі, сыночак міленькі,
Галубочак шызанькі...
Мой сыночак будзе спаць,
А я буду калыхаць.
А-а, а-а, люлі! А-а, а-а люлі!

Нашто, вецер, ты гудзеш,
Спаць Ясіку не даеш?
Спі, сыночак, міленькі...
А-а, а-а, люлі! А-а, а-а люлі!

Успомніш матку ты сваю,
Як цябе люляла,
Як табе ў ноч не раз
Песню я спявала.
А-а, а-а, люлі! А-а, а-а люлі!



 

**Польскі друк аб беларусах**

# Białorusini ginęli za naszą wolność

**(„Kierunki" Nr 14 — грамадска-культурны часопіс каталікоў)**

W dwanaście lat po zakończeniu wojny niechętnie wracamy myślą do tych czasów. A w każdym razie nie po to, by wypominać tej czy owej mniejszości jej ówczesną nielojalność wobec narod polskiego.

Ale jeżeli przeminął czas wypominania win, to z całą pewnością nie przeminął czas na wypowiedzenie słów wdzięczności tym, którzy pozostali nam wierni w czasie najczerniejszej nocy okupacyjnej.

Mówię o Białorusinach — mniejszości, która w Polsce przedwrześniowej była niewątpliwie najbardziej upośledzona. Może dlatego, że za mało upominała się o swoje prawa. Zresztą ten łagodny lud, lnianowłosy i niebieskooki — chyba najbardziej słowiański na całym świecie — nigdy nie umiał rozpierać się łokciami. Kontentował się małym marginesem życia, gdy inne ludy, z rozmaitym powodzeniem upominały się o jego pełnię.

Od tysiąca lat wyzwalano Białorusinów — najczęściej zresztą wbrew ich woli. Już legendarna Olga-synowa Rurika, wyzwalała ich od plemiennych książąt, potem Tatarzy wyzwalali od Rusi, Litwini od Tatarów, Polacy od Litwinów, Rosjanie od Polaków. W międzyczasie dwukrotnie do interesu włączali się Niemcy, „wyzwalając" Białoruś od Polaków i Rosjan za jednym zamachem, a od paru lat „wyzwala" ich na dodatek jeszcze Ameryka — na szczęście tylko na falach eteru.

Słowem, Białorusini nie mogą uskarżać się na brak przyjaciół.

Głęboki tragizm ich losu tkwi w położeniu geograficznym pomiędzy Polską i Rosją, dwoma ambitnymi krajami słowiańskimi o najbardziej atrakcyjnych kulturach. Słowa: katolicyzm, prawosławie, absolutyzm carski czy rewolucja socjalna, które dla innych narodów mają taką czy inną treść patriotyczną, dla Białorusinów oznaczały zawsze tylko wybranie tej czy innej hegemonii. Mimo to, wbrew rozsądkowi, krwawili się oni we wszystkich polskich powstaniach narodowych za wolność naszą i waszą, choć wolność nasza niekoniecznie musiała oznaczać ich wolność. I nie doczekali się jej ani w Polsce wielopartyjnej, ani za sanacji.

Żyli na marginesie dwudziestolecia. Wydawali za uzbierane ciężką pracą grosze komunikaty Agencji Białoruskiej, których nikt nie przedrukowywał i ubogie, na brzmiałe skargą, pisemka z wiązankami ślicznych wierszy Maszary, Tanka i Arseniewej. Znany utwór Konopnickiej „A czemu wy chłodne rosy padacie?..." jest jak gdyby żywcem wyjęty z tej poezji.

Ale do polskiego czytelnika nic z tego w ogóle nie trafiało. Chyba, że pracował w cenzurze. Albo — jak Wańkowicz czy Mackiewicz — sam poszukał Białorusinów. A wówczas następowało odkrywanie Ameryki. Wańkowicz stwierdzał ze zdziwieniem, że białoruska poezja jest prześliczna, a Mackiewicz załamywał ręce, że ludzie ci od grudnia do zbiorów nie widują chleba. Oraz, że lud białoruski jest opętany przez najdziwaczniejsze sekty i z żarliwością pierwotnych chrześcijan oczekuje na ponowne przyjście Zbawiciela.

Zbawiciel nie przyszedł. Natomiast przyszli Rosjanie, a potem hitlerowcy.

Ci ostatni mieli pierwszorzędne karty do zagrania. Wystarczyłoby tylko obcinać kupony z kapitału grzechów polskich i z kapitału grzechów rosyjskich. Ale w praktyce nic z tego nie wyszło. Na przeszkodzie stanęły: z jednej strony — zarozumiałość i głupota najeźdźców, z drugiej — czynnik zupełnie nieprzewidziany: postawa samych Białorusinów.

Białorusini, poza małymi wyjątkami, odmówili współpracy z Niemcami.

W naszym najbliższym otoczeniu geograficznym byli oni ludem, który nie dał się wciągnąć do hecy antypolskiej. Przeciwnie — czynnie poparł polską partyzantkę. Znowu za wolność naszą i waszą.

Czym objaśnić fakt, że naród, któremu w Rzeczypospolitej było zawsze wyjątkowo źle, nie tylko nigdy nie porwał się z bronią w ręku na tę Rzeczypospolitą, ale jeszcze zbrojnie stanął w jej obronie, w czasie, kiedy przyszła godzina próby?

Żołnierze polskich oddziałów partyzanckich, złożonych w większości z miejscowych Białorusinów (dzieci Sikorskoho), walczyli nie tylko na północno - wschodnich ziemiach dzisiejszej PRL. Kości ich poniewierają się po lasach Grodzieńszczyzny i Ziemi Wileńskiej, przysypał ie obficie piasek nowogródzki, oblepiło zimne błoto Polesia. Tego samego Polesia, gdzie białoruscy partyzanci z polskimi orzełkami na czapkach stawiali czoło posuwającym się od południa faszystowskim ugrupowaniom Hnuti Tarasa Bulby.

Ubowcy w każdym Białorusinie dopatrywali się nacjonalisty i kolaboracjonisty, NSZ-owcy — bolszewika i „kacapa". Wytworzyła się jedyna w swoim rodzaju współpraca obu wysokich stron, w której, niestety, przyjmowała udział i część miejscowej ludności polskiej. „My boimy się jeszcze dziś własnego cienia" — mówili mi działacze białoruscy w lutym 1957 r. Bo jest im nadal w Polsce źle.

Kiedy człowiekowi wierzącemu jest źle, to chroni się zwykle do stóp ołtarza. Ale gdzie ma się schronić Białorusin, którego Kościół polonizuje, a Cerkiew (wielko)ruszczy. Gdy tu i tam czuje się natrętnym i obcym przybyszem. Gościem na ziemi, na której jest teoretycznie pełnoprawnym współobywatelem.

Więc znów zapalają się błędne ogniki sekt, głoszących rychłe przyjście Zbawiciela.

Gdybym był posłem na Sejm, wystąpiłbym z żądaniem udekorowania mniejszości białoruskiej w Polsce wysokim odznaczeniem państwowym. Za to, że spłacała Polsce obfity podatek krwi właśnie wtedy, kiedy tej Polski formalnie nie było. I inni darli z niej, co się tylko dało.

Gdybym był wysokim dostojnikiem Kościoła katolickiego, nakazałbym wprowadzenie przynajmniej jednego kazania w języku białoruskim wszędzie tam, gdzie odsetek Białorusinów wśród miejscowych katolików przekracza 33 proc. A takich miejscowości znalazłoby się sporo. Zrobiłbym to, po pierwsze, jako Polak. Właśnie przez wdzięczność za tę krew. Po drugie, jako katolik. Bo Kościół katolicki nie powinien być nigdy narzędziem wynaradawiania.

Niestety, nie jestem ani dostojnikiem świeckim, ani duchownym. Ale wolno mi przynajmniej krzyczeć o tym, że w stosunku do Białorusinów — i tylko w stosunku do nich jednych — obowiązuje nas coś więcej niż tylko lojalność w przestrzeganiu litery Konstytucji. Po prostu dlatego, że w krytycznych latach okupacji i oni również nie trzymali się w stosunku do nas litery obowiązujących wówczas (niemieckich) ustaw.

Sądzę, że istnieją całkiem realne możliwości zadokumentowania im, że poczuwamy się do wdzięczności wobec naszych dawnych towarzyszy broni. (Mimo, że ubiegłe dwanaście lat świadczyłyby o czymś wręcz przeciwnym). Dodajmy, że mniejszość białoruska w Polsce, stanowiąca najbardziej spauperyzowaną część ubogiej ludności Białostocczyzny — naszej życzliwości bardzo potrzebuje. Choćby wyrażała się ona tylko w uświadamianiu polskiej ludności o roli Białorusinów w latach okupacji. Albo w niesieniu materialnej pomocy młodzieży białoruskiej, studiującej w polskich uczelniach.

Polskie „Towarzystwo Przyjaciół Młodzieży Białoruskiej" (czy jakaś inna organizacja w tym rodzaju) postawiłoby sobie za cel stworzenie dla tych chłopców i dziewcząt takich warunków bytowania, które wykluczałyby zupełnie pokusę apostazji narodowej na rzecz zarówno większości polskiej, jak też którejkolwiek z bratnich mniejszości słowiańskich. Towarzystwo popierałoby również wszelkie wysiłki polskich Białorusinów, zdążające do podniesienia ich stopy życiowej oraz rozbudowy życia kulturalnego.

Najwyższy bowiem czas, by zasada mechanicznego wynaradawiania, która w przeszłości zatruwała stosunki polsko - białoruskie, zaczęła wreszcie ustępować takim elementom polityki narodowościowej wobec polskich Białorusinów, które wzbudzałyby w nich zaufanie i przywiązanie do państwowości polskiej oraz szacunek dla bratniego narodu polskiego. Ale z pełnym zachowaniem własnej indywidualności narodowej.

**Bohdan Gębarski**

# Каму-ж гэта было патрэбна?

Сельскагаспадарчы кааператыў у Гацьках, Бельскі павет, лічыўся адным з лепшых. Паўстаў ён, параўнальна, даволі даўно, паспеў абжыцца, нават узмацнець. Пабудавана прыгожыя гаспадарскія будынкі, набыта гаспадарчае абсталяванне. Хіба ніхто з былых кааператыўшчыкаў не скажа, што ў сельгаскааператыве жылося яму горш чым на індывідуальнай гаспадарцы.

І вось гэты заможны сельгаскааператыў... разваліўся!

Каму-ж гэта было патрэбна?



...ці былому кааператыўшчыку, малазямельнаму Гіляру Казлоўскаму, які цяпер застаўся без каня і не мае чым араць сваю зямлю?



...ці патрэбна было, каб цяжкай працай пабудаваныя прыгожыя абборы, хлявы, купленае за цяжка зробленыя залатоўкі навейшае гаспадарскае абсталяванне бескарысна цяпер марнавалася!? (Не падумана нават аб тым, каб гэтае абсталяванне забяспечыць перад знішчэннем!).



...ці патрэбна было ліквідаваць сельскагаспадарчы кааператыў у Райску (непадалёк Гацькаў), каб пасля закупленую кааператыўшчыкамі на пабудову святліцы цэглу за поўцаны адкупіў Міхаіл Чарнак, які хоча пабудаваць сабе ўтульны домік? (А дзе-ж інтарэсы вёскі!?).

Каму гэта ўсё было патрэбна? Напэўна не Гіляру Казлоўскаму і яму падобным, на бядзе якіх цяпер пачнуць нажывацца розныя спекулянты і «добрыя гаспадары».

Тэкст і фото — С. ЯНОВІЧ.

# Два разы заквітнелі яблыні

Аўгень Піліпавіч Малашкевіч з вёскі Габяты, Беластоцкі павет, піша: «Некалькі гадоў таму назад у нашым гародзе па другім разе заквітнелі дзве яблыні. На вясну яны пасохлі. Хачу даведацца, што з'яўляецца прычынай гэтага, бо ўжо шмат чытаў садоўніцкіх кніжак але нідзе не мог знайсці растлумачэння гэтай незвычайнай з'явы прыроды».

АДКАЗ: Такая з'ява найчасцей сустракаецца па той прычыне, што ў час лета неаднаразова настае **суша** або **халады**. Калі дрэва пасля першай фазы росту, за час ад мая да ліпеня, завяжа кветавыя пупышкі, а пасля з прычыны халадоў ці сушы настане **застой** у росце, — то пры змене пагоды (большы дождж) ці пад уплывам добрага ўгнаення, дрэва абуджаецца да росту і квітнее замест на вясну будучага года, ужо восенню гэтага самага года. Найчасцей такая з'ява выступае толькі на некаторых галінах, але можа таксама заквітнець так багата, як увесну.

Такое дрэва звычайна не закончыць нармальных працэсаў росту і пераходу ў стан зімовага спакою і таму ў час зімовых маразоў лёгка мерзне.

Вышэй успамянутыя ненармальнасці ў росце дрэва можа выклікаць не толькі нероўнамернасць пагоды, але і глебавыя ўмовы (варункі). Знаходжанне ў падглебе гравію (жвіру) ці рудаўца з'яўляецца прычынай недахопу вільготнасці, у той час, калі побач гэтага месца вільготнасць глебы зусім нармальная. Могуць быць і іншыя прычыны перыядычных застояў у росце дрэў.

Вырошчванне збожжавых культур у садзе вельмі часта з'яўляецца прычынай паўторнага квітнення дрэў, бо спеючая збажына моцна высушвае глебу, а пасля ўборкі збожжа і ўзарання глебы, гвалтоўна павялічваюцца ў ёй запасы вільгаці.

Каб прадухіліць гэтыя шкодныя ненармальнасці ў росце дрэў, найлепей у пладаносячых садах ужываць чорны папар ад вясны да паловы лета дзеля захавання вялікай колькасці вільгаці і кармавых рэчываў для патрэбаў дрэў.

У другой палове лета высейваецца сярод пладаносячых дрэў мешанку матыльковых і іншых моцна растучых раслін, каб гэтая вырастаючая зялёная маса асушвала глебу і затым, каб дрэвы паступова заканчвалі свой рост і каб на працягу восені моцна адзеравянелі іхнія летнія прырасты, што робіць дрэва больш устойлівым на маразы. Гэту мешанку восенню або вясною патрэбна прыараць. Наколькі вясною і ў пачатку лета, дзеля добрага росту і пладанашэння, дрэвы вымагаюць частага парушвання глебы — натолькі пад канец лета і ў пачатку восені гаспадар павінен не дапусціць да занадта доўгага росту дрэў, бо гэта можа быць прычынай вялікіх страт зімою, падчас маразоў.

інж. ЯН ПЕЧАРА

# Хто прэпараваў жывога чалавека?

У барочных магільнях неапалітанскага палаца князёў Карак'ёлё знаходзяцца целы іх продкаў,



а сярод іх і цела памёрлага некалькі вякоў таму назад Уджон'ёнэ Карак'ёлё.

Як піша ў сямейных хроніках, ён меўся быццам адкрыць эліксір, — рэчыва, якое дазваляе захаваць яго цела патомным. Дагэтуль лічылі гэта легендай. Аднака-ж, гэтымі днямі, падчас кансерватарскіх работ у палацы, знойдзена вельмі дзіўна закансерваванае цела. Большасць касцей ужо згніла, аднак вельмі добра захаваліся... жылы і сетка крываносных сасудаў памёрлага.

Вучоныя не могуць развязаць загадкі, — якія сродкі ўжыта для правядзення гэтага незвычайнага эксперыменту. Мяркуецца, што была гэта ртуць з жэлатынам, якая акамяніла жылы: — І тут паўстае меркаванне: прэпарат знаходзіцца ў найдрабнейшых крываносных сасудах, з чаго вынікае, што гэты прэпарат павінен быў быць ужыты яшчэ падчас працы сэрца, — тады, калі памерлы яшчэ жыў! Хто і з якой мэтай правёў гэты жудасны эксперымент прэпаравання жывога чалавека — відавочна назаўсёды застанецца таямніцай, бо памерлыя, як вядома, — маўчаць.

